Opłate pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 26 Вільня, Серада, 20-га кастрычніка 1926 г. Год I.

## Запраўдныя прычыны.

Ужо каторы раз прымушаны мы даваць на страніцах нашае газэты адпор усім тым ілжывым напасьцям на „Грамаду“ згоднага хору польскае прэсы розных кірункаў—пачынаючы ад эндэкаў, ды абшарніцкіх наймітаў і канчаючы казённымі дэмакратамі, — але ўсе нашыя спробы прамовіць да іх сумленьня астаюцца „голасам гукаючага ў пустыні“. Што-дзень—то ўсе разам, то ўвадзіночку — віленскія польскія газэты („Kur. Wil.“, „Słowo“, „Dzien. Wil.“) друкуюць вялізарныя перадавіцы, *заклікаючы ўладу здушыць масавы рух працоўнае Беларусі да арганізацыі*, ды пры гэтым падаюць самую бязглуздую брахню, як „доказы“ праступнасьці працы „Грамады“. Падаюцца дэфэнзыўныя „справаздачы“ з паседжаньняў гурткоў „Грамады“: хаця на іх запраўды пішуцца пэтыцыі да сваіх паслоў, абгаварваюцца арганізацыйныя справы наагул, выносяцца трэбаваньні звальненьня палітычных вязьняў, арганізуецца падача дэклярацыяў з дамаганьнем беларускае школы, ладзяцца свае прыватныя школы, рыхтуюцца вечарыны і спэктаклі, чытаюцца легальныя часопісі і кніжкі ў беларускай мове, абгаварываюцца пляны арганізацыі каапэратываў і эканамічнае самапомачы, — аднак, паводле гэных „справаздачаў“ выходзе, што грамадзісты займаюцца „адрываньнем Зах. Беларусі ад Польшчы“, „твораць сваю армію“ (!) і робяць іншыя „страшныя рэчы“.... Паліцыянты, прысутныя пры гэтым, ведама-ж ня могуць нічога „праступнага“ выкрыць. Дык вось „Słowo“ і частуе „дурнямі“ тых паліцыянтаў, якія ня ўмеюць дачуцца таго, чаго... ніхто не гавора!

Але-ж ані абшарнікам, ані манархістам зьлева, ані эндэкам зусім і ня йдзе аб праўду. Паход проці „Грамады“ выкліканы тым, што *рост арганізацыі беларускіх працоўных масаў--хоць-бы на груньце зусім легальным*!—*зьяўляецца запраўды-ж небясьпечным для польшчыны ў нашым краю*: з аднаго боку, ён б‘ець па штучна насаджанай у нас *польскай казённай асьвеце*, ладзючы замест яе сваё беларускае школьніцтва; з другога боку — *пагражае эканамічнаму, палітычнаму і сацыяльнаму панаваньню польскага абшарніцтва*, бо-ж арганізаваная маса сялянства раней ці пазьней, тым ці другім шляхам даб‘ецца пераходу дворных зямель у рукі працоўных. І „Słowo“ зусім шчыра і адкрыта прызнаецца да гэтага ў перадавіцы нядзельнага нумару (17. X. 1926—№ 243) Апе з прычыны таго, што ў-ва ўсім гэтым няма ніякага сьледу „праступнасьці“, і за гэта нельга разграміць легальную арганізацыю „Грамады“ (—скандал перад усім культурным сьветам!),—дык трэба *сфабрыкаваць* і „дывэрсыйныя банды“, якіх ніхто не арганізуе, і „разьбіваньне польскае дзяржавы“ і іншыя падобныя „грахі“ Грамады, каб за іх можна было разьбіць арганізацыю сілай азброенага кулака, ды тэрорам адбіць у масы ахвоту канстытуцыйнымі спосабамі змагацца за свае нацыянальныя, палітычныя і сацыяльныя правы. Увесь дзяржаўны апарат, уся „прыцягаючая сіла“ польскае школы, хмары наймітаў—здраднікаў уласнага народу, уся магутнасьць капіталу, які ў нас знаходзіцца ў руках, варожых нам і сацыяльна і нацыянальна,—усё гэта аказалася *бяссільным перамагчы прабуджэньне сьвядомасьці ў беларускіх масах і зламаць іх арганізацыю шляхам канстытуцыйнага змаганьня.* І „Słowo“, заяўляючы аўтарытэтна, што „дзякуй богу, парлямантарызм належыць у нас ужо да мінуўшчыны“, што канстытуцыя ў Польшчы—гэта цяпер імя марш. Пілсудскага,—бачыць *ратунак для абшарніцкіх двароў і польскае асьветы на Крэсах* толькі ў барацьбе з беларускім масавым рухам не на шляху *канстуцыйным, законным*,—а на шляху *звычайнага гвалту, сілы кулака.* Ці-ж гэта ня доказ поўнага банкруцтва польскае палітыкі ў Заходняй Беларусі? Ці-ж гэта ня яўнае імкненьне да таго, каб на нашай Зямлі, замест дасюлешняе, запанавала ўлада *абшарніцкае „чрэзвычайкі“*?! ..

Дый орган урадавае лявіцы „Kurjer Wil.“ прызнаецца да банкруцтва польскіх уплываў у Зах. Беларусі ў сувязі з магчымасьцяй новых выбараў у Сойм. „Казённыя дэмакраты“ ясна кажуць: *калі зрабіць выбары зараз, дык „Грамада“ паб‘ець усіх*! Дык *трэба перш разграміць Грамаду* і толькі тады думаць аб выбарах (гл. перадавіцу ў № 240 з 16 кастр. 1926 г.).

Ведама, клічучы паліцыю на павадыроў беларускіх арганізаваных масаў, і абшарнікі і „казённыя“ дэмакраты“ дзеля „асалоды“ гавораць аб сваей „*надзвычайнай любві*“ да беларускага народу і маняцца на свой спосаб яго „ашчасьлівіць“. Зямлі, ведама-ж, абшарнікі ня суляць, а замест беларускае асьветы, якой народ так рашуча трэбуе, абяцуюць... *польскую асьвету*! „Дэмакраты“, трэбуючы ад улады, каб усе беларускія жывыя сілы, усю беларускую інтэлігенцыю пасадзіла за рашотку,—абяцуюць *пасьля* і школы ў родай мове, і катэдры беларусазнаўства ў віленскім унівэрсытэце, і ўрадавыя становішчы для беларусаў і шмат іншага, чаго—*пасьля „ліквідацыі“ нашых інтэлігентных сілаў*, як „сымпатыкаў камунізму“,— ведама-ж *зьдзейсьніць будзе немагчыма*! А каб-жа калі-колечы не сказалі, што за гэтыя ашуканскія пасулы павінен адказаць урад, — рэдакцыя „Kur. Wil.“ зьмясьціла іх у „*Вольнай трыбуне*“ (*не бяручы за іх адказу*), а *трэбаваньне тым-жа аўтарам разгрому адзінае беларускае масавае арганізацыі надрукавала раней у адказнай перадавіцы*....

Мы лічым сваім абавязкам выясьняць публічна ўсю бязглуздасьць газэтнае брахні аб „Грамадзе“ і яе працы, а такжа *выкрываць запраўдныя прычыны паходу проці яе* з боку віленскае польскае прэсы, —каб, у прыпадку зьдзейсьненьня марш. Пілсудскім дамаганьняў тутэйшых абшарнікаў і бутэрбродных „дэмакратаў“ у справе рэпрэсіяў, увесь сьвет ведаў *праўду* аб прычынах і мэтах *неканстытуцыйнае барацьбы з беларускай меншасьцяй у Польшчы.* Мы праўды не баімося,—баяцца яе тыя, хто гвалт над ёй чыніць!

## Характэрная прапазыцыя.

Орган міністра справядлівасьці п. Мэйштовіча, „Słowo“, заклікаючы ўладу да рэпрэсіяў проці „Грамады“, робіць гэткую характэрную прапазыцыю:

„Калі-б урэшце знайшлася група беларускае моладзі—запраўды і шчыра проціхбальшавіцкая, якая-б запраўды і шчыра лічыла, што іх родная зямля акупавана бальшавіцкай уладай, — дык, на наш пагляд, польскае грамадзянства, ды навет урад у межах абязываючых нас міжынародавых правілаў—павінен даць такой групе сваё падтрыманьне. Вільня можа быць сяньня месцам аселасьці беларускае эміграцыі, як некалі, дапусьцім, Парыж быў цэнтрам польскае эміграцыі. Будзем вельмі радыя, калі Магілёў і Менск адпадуць калісь ад Радаў, але наш абавязак — ўчыніць усё, каб Радашкавічы, Браслаў, Валожын, Навагрadак не папалі пад уплывы чырвонага Менску“.

Нам здаецца, што справа тут ня гэтулькі ў чырвонасьці, скольк ў **беларускасьці** Менску!

## За чые грошы?

Мы на гэтым мейсцы з усей рашучасьцяй мусім запратэставаць проці ганебных спосабаў барацьбы польскіх журналістаў—розных Обстаў, Цатаў і Бор‘аў — з беларускім вызвольным рухам. Гэтыя паны, кормленыя абшарнікамі і ўрадавымі партыямі за грошы, **выцісканыя з нашага-ж працоўнага народу**, пазваляюць сабе рабіць нашай ідэйнай прэсе нягодныя закіды прадажнасьці і г. п. Гэтыя паны дужа добра ведаюць, што арганізацыя, лічба сяброў якое (як самі-ж яны пішуць!) выражаецца дзесяткамі тысячаў, навет пры найменшых сяброўскіх складках мае даволі грошы, каб вясьці сваю працу самастойна і нікому не прадавацца,—што газэта, якая мае роўны нашаму лік чытачоў, ніскуль дапамогі не патрабуе. Але з беспрыкладным цынізмам яны пішуць сваю ілжу аб „бальшавіцкіх чырвонцах“ і г. п., **цкуючы гэтак польскае грамадзянства проці беларусаў** і... адначасна гаворачы аб сваей **„любві“** да нас!

Ня менш нягоднай брахнёй аб „Грамадзе“ зьяўляецца заява „Słowa“, быццам Камуністычная Партыя Зах. Беларусі зьліквідавалася і ўсе сябры яе ўвайшлі ў „Грамаду“. Мы ня верым, каб паны Цаты і Боры, людзі бясспрэчна „палітычна граматныя“, маглі хоць на мамэнт думаць, што нешта падобнае магчыма і падобна да праўды! Але... бутэрброды, якімі іх кормяць абшарнікі (на наш кошт!), відаць, такія смашныя, што гэныя паночкі за іх прадалі сваё сумленьне, прадалі чэсьць і высокае прызваньне журналістаў.

Ганьба вам, панскія наймітты!

Вось, чаму проці яго „Słowo“ хацела-бы з‘арганізаваць на гэтым баку дывэрсыйныя банды—з беларускае моладзі. Але вось бяда ў тым, што беларускае эміграцыі з Менску ў наш „рай“ неяк няма, апрача, здаецца, аднаго Паўлюкевіча, які ўцёк стуль, бо за нейкія штукі ў слуцкім аддзеле „Здравоохраненьня“ быў аддадзены пад суд і выпушчаны пад залог, паложаны адным з дактароў (ён цяпер у Вільні!). — Наадварот, уся польская прэса неаднакроць сцьвярджала масавую эміграцыю беларускае інтэлігенцыі — з польскага „раю“ ў бальшавіцкае „пекла“!...

## Бюджэт „дэмакратычнага“ ураду на 1927 г.

Рада Міністраў зацьвярдзіла прадстаўлены міністрам Скарбу „нарыс“ бюджэту на 1927 г., — які будзе пададзены на разгляд Сойму — на бюджэтнай сэсіі ў канцы кастрычніка.

Галоўнай рысай бюджэту, якая выдзяляе яго навет з дасюлешых мілітарных бюджэтаў Польшчы, зьяўляецца яшчэ больш высокая цыфра выдаткаў на армію. Цэлая **траціна ўсіх выдаткаў** Польскай Дзяржавы ідзе цяпер **на армію**, бо аж 623 мільёны. Гэта—на 56 мільёнаў больш, як у бюджэце 1926 г.

Але і гэтая вялізарная сума выдаткаў на армію—яшчэ не аканчальная. — Бо — ў дадатку да „бюджэтнага нарысу“ — ўрад падае яшчэ законапраект, які прадбачыць пэўныя новыя крэдыты на патрэбы ваеннага міністэрства, калі ўраду ўдасцца зрабіць ашчаднасьці ў бюджэтных выдатках, ці — **вышукаць новыя крыніцы даходаў**, якія перавысілі-б прадбачаныя сумы бюджэтных даходаў. А ведама-ж, што няма нічога лягчэйшага, як, маючы дыктатарскую ўладу ў Краі, „вышукаць новыя крыніцы“ і т. д.

Уся польская прэса слушна сцьвярджае, што залішне вялікія выдаткі на войска—галоўная прычына ўсей фінансавай хваробы Польшчы, яе дзяржаўна-гаспадарчага застою, адмовы ў заграчічным крэдыце і г. д. Гэты „мілітарыстычны бюджэт Польшчы—найлепшы адказ усім тым, хто так рэклямуе „мірную палітыку“ польскага ўраду... Вялікасьць дадаткавых расходаў на войска — з надзвычайных выдаткаў бюджэту, — на капітальныя рэчы (інвэстыцыі)—якія ўрад прадбачыць у лічбе 160 мільёнаў, – яшчэ няведама; але ведама ўжо, што ваенны міністар возьме на войска з гэтых мільёнаў **перш**ы, сколькі будзе патрэбна яму... А ўжо з рэшты, калі што астанецца з прадбачаных надзвычайных даходаў, будзе дададзена — на публічныя работы, на безработных, на будаваньне

дамоў і—на падвышку пэнсіяў дзяржаўным працаўніком. Апошнія, ведама-ж, за сваю „ляяльнасьць“ на зьезьдзе—могуць і пачакаць: можа ў сёлетнім годзе нічога яшчэ і не дачакаюцца! А вось, паны пад-афіцэры дык маюць атрымаць падвышкі зараз жа: аб гэтым, здаецца, ужо зроблена пастанова адпаведнай улады.

Другой галоўнай адзнакай бюджэту ўраду „дэмакрата“ Пілсудскага зьяўляецца тое, што ён яшчэ больш, як яго папярэднікі (сыны пяста-хіенскіх і хіена-пяста-пэпэсаўскіх урадаў), пабудаваны на падатках пасрэдніх (акцызах, мытах і т. п.), якія спаганяюцца скарбам з спажыўца, ці ў вялізарнай частцы—з працоўных масаў.— Гэтых даходаў з рознага віду падаткаў, якія ў канцы канцоў заплаціць працоўны спажывец, бюджэт прадбачыць вялізарную суму: 1 мільярд і 1 мільён злотых, і гэта—ня лічучы манаполіяў: — гарэлачнай, тытуновай, сернікавай...

Няведама толькі яшчэ (—бо паданы пакуль-што толькі агульныя лічбы), сколькі ўваходзіць у падаткавую суму грошаў з маёнтковага падатку, якога асталося яшчэ незаплочанага заможнымі клясамі, ня гледзячы на істнуючы ўжо 3 гады закон,—аж 650 мільёнаў злотых. Трэба думаць, што не на тое ўвайшлі ў склад „дэмакратычнага“ ўраду Пілсудскага-Морачэвскага паўчварта вялікіх польскіх абшарнікаў, каб спаганяць з сябе ды з сваіх калегаў гэтыя мільёны.

„Robotnik“ адзначае яшчэ характэрную рысу гэтага „дэмакратычнага“ бюджэту, які ўрад горда абвясьціў—бездэфіцытным (без недахвату). — Кошты ўтрыманьня (дарагоўля жыцьця) ў Польшчы ў мамэнт укладаньня бюджэту (на 1 кастрычніка)—ў параўнаньні з канцом 1925 году — павялічыліся амаль не на чацьвертую частку (на 22%). Гэта значыць, што ўрад, паміма розных іншых ашчаднасьцяў, мае 22 працэнты эканоміі ўжо на тым, што ня плоціць сваім працаўніком пэнсіяў, адпавядаючым росту дарагоўлі. А, бяручы яшчэ надвышаныя на 10 працэнтаў падаткі з працоўнага спажыўца, якога жыцьцё зрабілася даражэйшым—пры тэй-жа плаце за працу, — новы ўрад польскай „дэмакратыі“ пабудаваў бюджэтную раўнавагу на далейшым „абразаньні жыцьця“ працоўным, на запраўдным „галодным пайку“ для вялізарнай масы насяленьня краю... Ясна, што гэтая „бюджэтная раўнавага“ пабудавана на такой „сацыяльнай раўнавазе“, якую можна ўтрымаць больш-менш даўжэйшы час — толькі значна падвысіўшы пэнсіі афіцэрам і падафіцэрам арміі, ды наагул—выдаткі на войска, першым абавязкам якога як-раз і павінна быць — ўтрыманьне гэтай „раўнавагі“, дакуль толькі магчыма.

# З біяграфіі мін. Мэйштовіча.

„Robotnik“ падае цікаўныя даныя з даўнейшай біяграфіі міністра Мэйштовіча, якому марш. Пілсудскі аддаў „справядлівасьць“ у Польшчы. Адказываючы на пахвалы п. Мэйштовічу з боку казённых пісакаў з „Кур. Поран.“, які назваў Мэйштовіча—„найбольш выдатным прадстаўніком крэсавага польскага грамадзянства“, „стойкім барацьбітам за злучэньне паўночна-ўсходніх крэсаў з Мацежай“ і т. п., „Robotnik“ зьмясьціў пісьмо „віленскага дэмакрата“, які піша паміж іншым:

„Мы тутака ў Вільні маем уражаньне, што „Кур. Поран.“ — папросту сьмяецца сабе з сваіх чытачоў... П. Мэйштовіч, калі што „рэпрэзэнтуе“, дык толькі невялічкую групку былых менскіх абшарнікаў, якая згуртавалася навакол рэдакцыі віленскага „Слова“, якія папросту гарацць—паляцца ненавісьцяй навет да нейменшага поступу“... Ня толькі работнікі сацыялісты, але навет умяркаваная польская інтэлігенцыя ў Вільні папросту агарошана гэтым назначэньнем... Далей „дэмакрат“ напамінае, як гэты „выдатны праўнік“ высяліў у часе „Сярэдняе Літвы“ бяз суда і сьледзтва беларускіх і літоўскіх культурных дзеячоў... З даўнейшай прошласьці п. Мэйштовіча аўтар успамінае, што гэты цяперашні „патрыёта“ польскі калісьці—за часоў царату—быў адным з тых, каго віленскі журналіст Ч. Янкоўскі назваў дасьціпна „катарыняжамі“—за тое, што яны (амаль ня ўсё „крэсавае“ магнацтва!) прынялі гарачае ўчасьце ў урачыстасьці адчыненьня памятніка Кацярыны II ў Вільні...—„Як можа чалавек, які літэральна ненавідзіць усё, што ў сучаснай Польшчы становіць здабычу дэмакратыі, як можа гэткі чалавек узяць на сябе—на становішчы міністра справядлівасьці — ролю ахоўцы рэспубліканскай Канстытуцыі, абаронцы права і г. д., дый яшчэ ў габінэце Пілсудскага, — гэтага ані зразумець, ані апраўдаць немагчыма“.

Так пішуць пакуль-што некаторыя з віленскіх дэмакратаў, якія дагэтуль яшчэ—„ня могуць зразумець“, што робіцца ў „Польшчы Пілсудскага“...

На паноў катарыняжаў тады хадзіла песенка, якая канчалася прыпевам:

Marsz, marsz, Mejsztowicz,
Idźmy całą zgrają:
Pod pomnikiem Katarzyny
Dziś ordery dają...

А ці-ж запраўды, пане „віленскі дэмакрат“, так цяжка зразумець, чаму з гэтай самай „зграі“ бярэ цяпер марш. Пілсудскі сабе міністраў?...

# Эканамічныя вынікі забастоўкі вуглякопаў.

Адзін з францускіх эканамістаў падлічыў усе тыя школы і страты, якія прынясла Англіі забастоўка вуглякопаў, якую ніяк ня можа ўрэгуляваць кансэрватыўны, спрыяючы прамысловцам, урад Балдвіна.

Як ведама, забастоўка пачалася 1 траўня і цягнецца значыць ужо 5 з паловай месяцаў. За гэты час усе галоўныя галіны англійскай прамысловасьці так ужо расхістаны ды зруйнаваны, што—пасьля спыненьня забастоўкі — трэба будзе шмат часу, каб Англія адбудавала свае страты... Дый яшчэ пытаньне: ці гэта будзе магчыма наагул?!. Вугальная забастоўка ня толькі ізноў падняла да паўтара мільёна лічбу безработных у Англіі (ня лічучы бастуючых вуглякопаў!), але і страшэнна падняла дарагоўлю ў краі... Цяпер наагул англійскія фабрыкі ня могуць—дзеля дарагоўлі жыцьця — канкураваць з замежнай прамысловасьцю...

А вось лічбы заняпаду гэтай прамысловасьці ў Англіі.—З 47 вялізарных доменных печаў, выплаўляўшых жалеза, якія працавалі на 1 траўня, цяпер асталося працуючых толькі—шэсьць... Выраб чыгуну ад красавіка ўпаў з 539.000 тоннаў да 13.000 у канцы жніўня... Сталі ў красавіку выпушчана 660.000 тоннаў, у ліпні — 32.000 тон... За 4 месяцы Англія страціла ўсяго 2 мільёны тоннаў чыгуну і 2 мільёны 400 тысячаў тоннаў сталі... Лічба безработных у жалезнай прамысловасьці за год павялічылася амаль не на 40 працэнтаў... У прадзільна ткацкай прамысловасьці працуе толькі 60 працэнтаў работнікаў, што працавалі да забастоўкі... Дзеля недахвату вугальля найвялікшыя фабрыкі ў Манчэстэры працуюць толькі адзін тыдзень з трох, — два тыдні фабрыкі зачынены...

Дзякуючы ўсяму гэтаму, у Англіі ўзьняўся вельмі востры крызіс і ў вонкавай таргоўлі: гандлёвы балянс дае значна большую, як звычайна, перавагу ўвозу над вывазам. — Напрыклад, — у жніўні сёлетняга году гаспадарчы дэфіцыт быў роўны 48 мільёнам фунтаў, ці 240 мільёнам даляраў, у жніўні леташняга году — толькі 17 мільёнаў фунтаў. За год вываз баваўняных вырабаў з Англіі зьменшыўся на 20 мільёнаў фунтаў, ці на 100 мільёнаў даляраў... Ваўняных — на 6.600.000 фунт., жалеза і сталі — на 5 мільён., машынаў — на 2 мільёны ф. Затое ўвоз, а перадусім вугальля, якое было яшчэ нядаўна галоўным таварам вывазу з Англіі, — павялічыўся страшэнна. Так, у ліпні вугальля ўвезена 2.400.000 тоннаў, у жніўні—больш за 4 мільёны.

А можа горш за ўсё — гэта тое, што, карыстаючыся з адсутнасьці англійскіх тавараў на цэлым радзе манапольна занятых Англіяй да забастоўкі рынках—умацаваліся нямецкія прамыслоўцы, якія заключылі з гандлярамі доўгасрочныя дагаворы... Гэткім чынам, навет калі забастоўка ў Англіі і спынілася, дык рынкі для яе прамысловасьці будуць надоўга крэпка заняты яе канкурэнтамі—немцамі...

# У Польшчы.

## Калі распачнецца асеньняя сэсія Сойму.

Звычайная асеньняя сэсія Сойму пачнецца 28 кастрычніка і будзе занята амаль ня выключна разглядам бюджэту на 1927 г.—згодна з папраўленай Канстытуцыяй. Экспозэ ад імя ўраду мае прачытаць прэм'ер марш. Пілсудскі, які праз галовы паслоў зьвернецца з прамовай да ўсяго народу. Што мае ён сказаць у гэтай прамове, пакуль што нікому няведама.

## „Камісія для Крэсавых спраў“.

15/X першы раз пасьля летняга спачынку сабралася ў Варшаве так-званая „камісія для Крэсавых спраў“, у склад якой, як ведама, уваходзяць „знаўцы“ спраў тэрытарыяльных меншасьцяў: эндэк Зьвежыньскі, — „беларусазнаўца“ (ці лепш: беларусаед!) львоўскі адвакат Левэнгэрц, як „украіна-знаўца“, і—панок з ППС, Васілевскі,—для шляхотнай ролі „ахоўцы правоў меншасьцяў“, як „бесстаронны“. Усе тры „рэчазнаўцы“, як ведама, выбраны і назначаны самім Станіславам Грабскім, але „сядзяць“ у „камісіі“ і дагэтуль, бяруць, здаецца, добрыя „дыеты“ і, як водзіцца,—нічога-ж нічагусенькі ня робяць... Дый дзякуй ім яшчэ якраз за тое, што нічога ня робяць!..

## Новы закон аб прэсе.

Газэты паведамляюць, што ўрад марш. Пілсудскага-Марачэўскага апрацоўвае новы закон аб прэсе, які—„уводзіць новыя рэпрэсіі і скарпіёны, якія-б дазволілі трымаць ямчэй у руцэ апазіцыйную прэсу“... Для бесстароннасьці трэба дадаць, што для ўрадавай прэсы затое прадбачыцца — яшчэ больш волі і бутэрбродаў... — „Вольны з вольнымі“...

## Да нападу на пасла Зьдзеховскага.

Скандал у польскай вайсковай справядлівасьці трывае далей.—Спраўцы аружнага нападу —з бомбай у руках—на пасла Зьдзеховскага, аб якіх ужо точна сцьверджана, што яны—афіцэры арміі і жандармэры, дагэтуль яшчэ „няведамы“ для ваенных судовых уладаў, хаця, як пішуць газэты, прозьвішчы іх голасна паўтарае амаль ня ўся Варшава...

## Эпідэмія „палітычных забойстваў“ ў Варшаве.

У Варшаве за апошнія дні зроблены цэлы рад забойстваў, якія польская прэса называе „палітычнымі“. Забойствы ўсе зроблены сярод работнікаў і, як можна думаць, маюць грунт у страшэнна пашырыўшайся сыстэме правакацыі сярод работніцкіх масаў...

## За кроў работніка — I месяц арышту, бо забойца — ксёндз!

„Robotnik“ паведамляе, што акружны суд у Седльцах засудзіў на 1 месяц арышту ведамага „разьбіяча“ работніцкага і сялянскага руху — ксяндза Назарэвіча, які падстраліў работніка Рыхлеўскага. Аднак-жа выкананьне і гэтага мяккога прысуду было спынена ўладай.

„А калі-б так работнік падстрэліў ксяндза“? —пытаецца „Rob.“,—„дык ці тады і яго суд засудзіў-бы, толькі на месяц арышту“?!

Як думаеце, грамадзяне?!...

# Заграніцай.

## Перагаворы між ССРР і Эстоніяй.

Сьледам за ўзнаўленьнем перагавораў між ССРР і Латвіяй толькі-што распачаты перагаворы аб заключэньні гаранцыйнага трактату і між ССРР і Эстоніяй. Гэткім чынам прапазіцыя радавай дыпляматыі балтыцкім дзяржавам—заключыць з імі, з кожнай паасобна, трактаты, забясьпечываючыя граніцы і сувэрэннасьць іх, увайшла на шлях ажыцьцяўленьня. Як ведама, сьпярша балтыцкія дзяржавы высоўвалі думку, апрацаваную польскай дыплёматыяй: каб ССРР заключыла адразу адзін супольны трактат з усімі балтыцкімі дзяржавамі разам. Тады быццам на чале балтыцкіх дзяржаў станула-б Польшча... Рады рашуча адкінулі гэную думку.

## Новая фаза забастоўкі англійскіх вуглякопаў.

Цэнтральная ўправа злучаных англійскіх вуглякопаў пастанавіла перанясьці сваю сядзібу ў Лёндан, каб вастрэй вясьці барацьбу з прамыслоўцамі.

Управа мае зьвярнуцца да ўсіх работніцкіх саюзаў у Англіі, каб яны ўсе салідарна фінансавалі бастуючых вуглякопаў — аж да аканчальнай перамогі.

Управа далей пастанавіла прыняць рашучыя меры, каб перашкодзіць давозу і перавозцы ўглыб краю заграніцнага вугальля; урэшце, прыняла новы назоў: „Цэнтральнай Ваеннай Рады“... Гэткім чынам, англійскія вуглякопы падчыркнулі, што распачалі запраўдную вайну за свае дамаганьні, за якія дагэтуль яны змагаліся даволі лагодна.

## Зьмяншэньне францускай арміі.

Уся Францыя добра адчувае на сабе скуткі паразуменьня з Нямеччынай. Толькі-што адбылося паседжаньне Рады абароны краю, на якім разглядаўся праект, апрацаваны ваенным міністрам,— аб зьмяншэньні францускай арміі аж на 12 дывізіяў. Апрача гэтага ваенная служба мае быць абмяжавана да 1 году.

## „Мусоліні—пасланы ад Бога ангел“.

Да якога агіднага лякайства апусьцілася сучаснае духавенства, ліжучы руку пануючае ўлады, якая б'е і душыць працоўныя масы народу, найлепшы прыклад дало яно ў — фашыстаўскай Італіі.—Прадстаўнік каталіцкага духавенства на вялікіх урачыстасьцях у Рыме ў чэсьць Францішка з Ассіз: праўду кажучы, больш гаварыў аб Мусоліні, як аб сьвятым Францішку... Услаўляючы сучаснага валадыра Італіі, папскі легат, кардынал Мэры-дэль-Валь, аж захопліваўся, дзякуючы Мусоліні за тое, што той—„забясьпечыў духавенству маральныя ўплывы і пашану з боку народу“... Дык Мусоліні, гэта-ж—„Муж-ангел, пасланы самім Богам на зямлю“...

Калі духавенству трэба „забясьпечываць маральныя ўплывы і пашану“ тым фашыстаўскім тэрорам азброенага кулака, якім толькі і распалагае фашызм, дык трэба сцьвярдзіць, што справа гэтага духавенства—прайграна дарэшты...

## Пратэсты проці адшкадаваньняў для кайзэра.

Па ўсей Нямеччыне, а асабліва ў сталіцы, адбыліся чысьленныя мітынгі, ладжаныя пераважна камуністамі, — якія выражалі рашучы пратэст проці прызнаньня прускім Соймам адшкадаваньняў сябром былага пануючага дому Гогэнцолернаў у Нямеччыне.

## Спробы паразуменьня ў Кітаі.

У паўдзённым Кітаі, здаецца, з пачыну чырвонай арміі, ці англійцаў, пачаліся спробы паразуменьня між прадстаўнікамі замежнай дыпляматы і камандаваньнем кантонскай арміі.—Кантонскі ўрад мае падвысіць мыты на замежныя тавары, а за гэта (!) ён абяцуе спыніць байкот англійскіх тавараў у краі... Дзіўна толькі: ці рэшта дзяржаў-канкурэнтаў так ужо зацікаўлены ў спыненьні байкоту... англійцаў?!

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# З жыцьця „Грамады“.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

**Баранавіцкі павет.**

478. 3/IX у в. **Серабрышчы**, Маўчадзкае гм.
479. 31/VIII у в. **Цэцяровец**, „
480. 30/VIII у в. **Канцэвічы**, „
481. 12/IV у в. **Паручын**, Гарадышчанскае гм.

**Браслаўскі павет.**

482. 6/IX у в. **Крапіўнікі**, Ёдзкае гм.
483. 6/IX у в. **Шурпакі**, „
484. 29/VIII у в. **Біейкі**, „
485. 12/IX у в. **Рудобісьць**, „
486. 12/IX у в. **Дзевялі**, Друйскае гм.
487. 19/IX у в. **Казакі**, Нова-Пагосцкае гм.
488. 11/IX у в. **Падзіееннікі**, Багінскае гм.

**Беластоцкі павет.**

489. 28/VIII у в. **Зарэчаны**, Гарадоцкае гм.
490. 25/VIII у в. **Навасёлкі**, „
491. 28/VIII у в. **Валілы**, „
492. 4/IX у в. **Тапілец**, Харашчанскае гм.
493. 2/IX у в. **Зарэчаны**, „

**Бельскі павет.**

494 29/VIII у в. **Гайнаўка**, Белавежскае гм.
495 11/IX у в. **Ст. Беразова**, Арлянскае гм.
496. 29/VIII у в. **Орля**, „
497. 14/IX у в. **Крывая**, Пасынскае гм.
498. 11/IX у в. **Сацы**, Нарэўскае гм.

**Валожынскі павет.**

499. 22/VIII у в. **Сярэдняе Сяло**, Пяршайскае гм.
500. 12/IX у в. **Зарэчча**, „
501. 28/VIII у в. **Гуды**, Івянецкае гм.
502. 12/IX у в. **Пранікі**, „

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

## У гуртках.

5./IX. г. г. Сьнегаўскі гурток „Грамады“, Браслаўскага пав.. на сваім сходзе сяброў гуртка — у ліку 39 чалавек—пастанавіў прасіць сваіх паслоў, каб яны зьвярнуліся да ўраду, каб той — з прычыны недароду ў гэтым годзе—спыніў вываз абшарнікамі збожжа заграніцу, зарганізаваў дапамогу пацярпеўшаму ад няўроды сялянству Віленшчыны і зьняў сёлета падаткі з гэтых пацярпеўшых хлебаробаў, бо ня толькі плаціць, але й жыць няма з чаго, і галодная сьмерць шчэрыць зубы, а малыя дзеткі плачуць: „хлеба, хлеба“!..

✕ Жухавіцкая гм., Стаўпецкага пав., зусім „аграмадзілася“. І „Грамада“ зрабіла сваё. Абшарнік з двара Цэтры больш як 1 зл. 25 гр. не хацеў даваць за выбіраньне бульбы, дык дзякуючы „Грамадзе“ салідарна ўгаварыліся сяляне, і ніхто не пайшоў на работу да пана. Данясьлі аб гэтым на пастарунак у Жухавічы, камандант аж вешаецца, — страшыць сялян, каб ішлі на работу, але — даволі: наш народ ужо ўсё перанёс і нічога не баіцца, — ён здабывае сабе правы і здабудзе, калі дружна будзе йсьці „Грамадой“.

✕ 12./IX. г. г. ў в. Верхнім, тае-ж гм., Дзісьненскага пав. адбыўся арганізацыйны сход „Грамады“, дзе й залажылі гурток і выбралі прэзыдыум гуртка. Ня гледзячы на пастрахі прыслугачоў буржуазіі, што, хто запішацца ў „Грамаду“, — скуру з таго будуць лупіць,—сяляне з в. Вольна-Аброўска, Сьвята-Вольскае гм., Косаўскага пав.,—горнуцца ў Грамаду і залажылі там гурток.

✕ Каб усьвядоміць сялян в. Чарлёна, Скідэльскай гм., Горадзенскага пав., і залажыць там гурток „Грамады“, прыйшлі туды трое грамадзістаў з в. Казяны; прыйшлі, разьясьнілі, чаго дабіваецца „Грамада“, адзначыўшы, што калі мы ўсе беларусы з'арганізуемся ў „Грамаду“, то хутка адваюем свае правы і належнае сабе месца сярод другіх народаў. Даведаўшыся аб гэтым, сяляне, як пчолы, рушылі ў „Грамаду“ і залажылі „Гурток“, толькі Уладз. Савцо начубіўся і навет адозву „Грамады“ сарваў, што наклеілі сяляне на хаце. Гэты Савцо, як кажуць, шпік і ўжо не адзін чэсны селянін праз яго сядзеў — у вастрозе; на яго ўсе, як на брыду глядзяць.

✕ Сябра „Грамады“ Максім Масьцерко наклеіў у сваей в. Мікалаеўшчыне, Міжавіцкай гм., Слонімскага пав., адозвы аб амністыі для палітычных вязьняў, як палепшыць свой дабрабыт і др. Дык зьявіўся ўначы паліцыянт, сарваў абвесткі і — на пастарунак у Міжавічы. Пасьля прыйшоў камандант дапытвацца, хто наклеіў. М. Масьцерко прызнаўся, што гэта ён наклеіў і больш мае адозваў; камандант аж аслупянеў, што гэтак сьмелы вясковы хлапец, і папрасіў паказаць адозвы. Масьцерка паказаў, камандант хацеў адну ўзяць, а Масьцерка кажа: „Дам, толькі дай паквітаваньне, што ты ўзяў“. Задумаўся камандант, пабаяўся даць і пайшоў без адозвы.

✕ Як панёс Антон Шэўка, сэкрэтар Горна-Рудзкага гуртка „Грамады“, Гарадоцкай гм., Наваградзкага пав., — паведамленьне праз пастарунак для старосты аб сходзе, дык камандант паведамленьня ня прыняў і нагаварыў горбу баек аб тым пекле, якое мусіціме прайсьці кожны грамадзіст. Але сяляне плююць на гэтыя страхі і робяць сваё.

✕ Паліцыянт Бочка, даведаўшыся аб некалькіх сяброх „Грамады“, што яны ў „Грамадзе“, паклікаў іх з вёскі Кунцэвічы, Пачапаўскай гм., Наваградзкага пав.,—на пастарунак і пісаў там на іх быццам пратакол, пагражаючы вастрогам, за тое, што яны ў „Грамадзе“.

**Ад Рэдакцыі.** Паліцыя ня мае права гэтага рабіць, і мы аб гэтым паведамілі Соймавы Клюб Бел. Сян.-Раб. Грамады, каб ён падаў інтэрпэляцыю ў Сойме, трэбуючы пакараньня гэтай „Бочкі“.

## АДОЗВА.

Даўгінаўскага гуртка да ўсіх гурткоў і іншых асоб!

**Грамадзяне!** Войны, быўшыя доўгі час на Беларусі, напладзілі шмат бедакоў, якія ледзь жывуць, чакаючы направы і ня могучы пры сучасным цяжкім эканамічным стане палепшыць сваё жыцьцё хоць на чуць-чуць.

Прыкладам гэткіх зьяўляецца сябра нашага гуртка Рыгор Мацук, які пацярпеў ад пажару і ня мае свае страхі ня толькі для сябе, але і для жывёлы і збожжа. Будучы калекаю (разьбіты паралічам нага й рука) і маючы толькі 2 дзесяціны зямлі, а з жывёлы толькі кабылку, ды абцяжаны непрацаздольнай дзятвой, ён ня мае ніякай магчымасьці збудаваць штонебудзь, хоць працуе днём і ноччу, як дазваляюць толькі яго сіла і здольнасьць. Нашая вёска, хоць і сама пацярпеўшая ад пажару, ускладчыну пачала будаваць яму хатку, да якое яшчэ не хапае шмат матар'ялу.

Грамадзяне! Даўгінаўскі гурток зварочваецца з гарачай просьбай да ўсіх, хто мае сэрца і хоча дапамагчы гаротніку, каб кожны памог яму збудаваць хату к падходзячай зіме, даючы грашмі, колькі можа. Хай кожны гурток вызначыць чалавека для збору ахвяр па ўсей вёсцы, адсылаючы іх па адрасу: Grzegorz Macuk, poczta Turzec, wieś Dołhinowo—powiatu Stołpeckiego.

Бліжэйшыя вёскі й асабы, жадаючыя дапамгчы, хай прыносяць, што зьбяруць, да тутэйшага камітэту Гуртка. Усё, што ад каго атрымаецца, будзе абвяшчацца праз газэту!

Грамадзяне, не пакіньце бяз увагі гэтай просьбы!

**Камітэт Гуртка Б. С.-Р. Грамады ў Даўгінаве.**
(Ярэміцкая гм., Стаўпецкага пав.).

# ХРОНІКА.

**Маральная санацыя ў Віленскім Унівэрсытэце Стэф. Баторага.** Як нас інфармуюць па маёвым перавароце палажэньне беларускай моладзі ў Віленскім Унівэрсытэце асабліва-ж на мэдыцынскім факультэце значна „палепшала“: да гэтага году ня прыймалі ў Унівэрсытэт толькі беларускай моладзі, якая скончыла Белар. Гімназіі, а сёлета ня прыймаюць нат' тых, якія скончылі ўрадовыя польскіі гімназіі з найлепшымі ацэнамі (4—5) бяз троек, калі яны беларусы ды яшчэ праваслаўныя...

**Прэсавыя справы.** Віленскі акружны суд на гаспадарчым паседжаньні зацьвердзіў канфіскацыю камісарам ураду на м. Вільню № 18 „Народ. Справы“.

Міністэрства ўнутраных спраў забараніла ўвоз поштай з Прагі Чэшскай беларускага студэнцкага журналу „Прамень“.

**Падатковыя палёгкі.** Як высьняецца, сёлета ад ураджаю крэпка пацярпелі ня толькі пераліченыя ў нас паўночна-ўсходнія паветы Заходняе Беларусі, дзе недарод мае характар запраўднае катастрофы, — але і блізу ўвесь наш край, хаця ў меншай меры. У сувязі з гэтым нашым хлебаробам трэ ведаць, з якіх палягчэньняў пры сплаце падаткаў яны могуць сёлета скарыстаць.

Там, дзе ўраджай сёлета прынамся на 40 проц., ніжэйшы за леташні, і гаспадары ня маюць ні запасаў зерня з мінулых гадоў, ні грошы,—начальнікі скарбовых урадаў маюць права адкладаць сплату грунтовага падатку—як за ўвесь 1926 год, так і І-ае раты 1927 г.,—да 15-га кастрычніка 1927 году.

Дробныя зямляўласьнікі (да 43 гэктараў) могуць падаваць просьбы аб адкладзе падаткаў не ўвадзіночку, а разам — групай, ды ад іх імя можа прасіць аб гэтым гмінны ўрад.

За адкладзены з прычыны неўраджаю грунтовы падатак ня будуць браць ані караў, ані працэнтаў.

**Водгукі „фальшаванага юбілею“.** Рэдакцыя „Bieł Krynicy“, орган кс. Станкевіча, стаўшыся чыста палітычнай часопісяй, набралася паганых прывычак. Мы ўжо некалькі разоў адзначалі факты сьвядомае маны і перакручваньня фактаў, а ў адным з апошніх нумароў выкрылі, што гучна абвешчанае „дзесяцілецьце“ газэты беларускіх клерыкалаў мае ў сябе... толькі 9 гадоў!

Замест пакаяцца ў сваім граху, рэдакцыя ксяндзоўскае газэты ... аблаяла апошнімі слвамі грам. Антона Луцкевіча, якога лічыць вінавайцам выкрыцьця фальшу з „юбілеем“, і... ізноў цьвёрда заявіла, што запраўды ад 8-га кастрычніка 1917 году да 8-га кастрычніка 1926 году мінула **10** гадоў, хоць і „няпоўных“!...

Ведама, і 9, і 8, і 7, — усё гэта „няпоўныя дзесяткі“. Але — паводле правілаў арытмэтыкі, рахунак „Bieł. Krynicy“ ўсё-ж такі—фальшывы. Запраўды-ж: у 1917 годзе газэта выходзіла толькі 3 месяцы без васьмёх дзён; 1918, 1919, 1920, 1921, 1922, 1923, 1924 і 1925 поўныя гады даюць 8 гадоў; у 1926 годзе да 8-га кастрычніка мінула 9 месяцаў і 8 дзён. Вось, злажыўшы ўсё гэта разам, атрымаем акурат **9 гадоў.**

Скажам яшчэ раз: стыдна, што нам прыходзіцца вучыць такіх прастых рэчаў людзей, якія ababраліся за „павадыроў народу“! Ды благія гэта павадыры, калі іх маральнасьць і ідэйнасьць раўнацэнна з іх „арытмэтыкай“.

**Прадоўжаньне лекцыі.** У мінулую нядзелю грам. Я. Станкевіч прачытаў у салі Віл. Бел. Гімназіі толькі першую частку сваей цікаўнай публічнай лекцыі аб беларускіх мусульманах, нарысаваўшы гісторыю пасяленьня і жыцьця іх на Беларускай зямлі ад часоў В. Князя Вітаўта. Другая палова лекцыі: аб беларускай літэратуры арабскім пісьмом — будзе прачытана ў наступную нядзелю, 24-кастр., там-жа ў 3 гадз. папалудні. Уваход вольны і бясплатны.

На першай лекцыі, даўшай багаты гістарычны і бытавы матар'ял аб нашых мусульманах, народу сабралося даволі многа, і лектару быў зададзены рад пытаньняў, на якія гр. Станкевіч даў вычэрпываючы адказ. Трэба думаць, што й чародная лекцыя будзе мець заслужоную ўдачу.

**Дапамога былым палітычным вязьням з царскіх часоў.** Таварыства б. палітычных вязьняў з царскіх часоў ладзіць прадажу на вуліцах места шакаладных „бомб“—з білецікамі на фанты ў шчасьлівых „бомбах“. Даход з гэтага пойдзе на дапамогу патрабуючым яе сябром Т-ва.

Дзеля прадажы за працэнты патрэбны інтэлігентныя прадаўцы; ахвочыя могуць зварачацца па адрасу: Вільня, Вялікая вул. 34.

Шчыра спагадаючы былым барацьбітам за волю ў царскай Расеі, мы можам толькі пашкадаваць, што ў „дэмакратычнай“ Польшчы няма дагэтуль магчымасьці таксама адкрыта і публічна працаваць дзеля дапамогі **сучасным** палітычным вязьням!

**Ізноў зладзействы сярод „сяўцоў польскае асьветы“.** „Kur. Wil.“ выкрывае новыя надужыцьці ў віленскім куратарыуме. Гэтым разам папаўся на зладзействе нейкі пан Гоявічыньскі, „спэцыяліст“ па дапаўненьні эдукацыі народных вучыцялёў.

**Паштовы ўрад у Маладэчне.** У паштовай управе ў Маладэчне ўкрадзена пасылка з 3.300 злот. Арыштаваны хурман, што вёз пошту.

**Афіцыяльны курс грошы на 19-га кастрычніка**
Даляр—8 зл. 97 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

19. X. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,01. Зал. руб. 4,85. Чырвонец 48.

# Уражаньні з падарожы.

Вось яна вёска! На вуліцы гразь, ды балота. Шэрыя хаткі й платы пахінуліся моцна ў бок вуліцы. Людзі таксама шэрыя, забітыя, загнаныя, палахлівыя. Усюдых няхват ежы й вопраткі. Здаецца, праяжджаеш праз мора недастатку й цемры...

„Вот она Ваша Белорусь. Что вы с ней можете сделать? Думаю, что за эти месяцы убедились достаточно... — цэдзіць праз зубы нейкі русапэт-інтэлігент.

— „Panie! Przecież to bydło. Co Pan z bydłem zrobi“?—пшыкае з запалам асаднік, які пхнецца ў паны або паўпанкі.

Іншы раз, у мінуты адчаю, нуды й упадку энэргіі, апускаеш чалавек сумна галаву. Прабягаюць прад вачыма вобразы нядолі й цемры. І для многіх здаецца тады, што чулі сумны, але справядлівы прысуд.

Але гэта толькі так здаецца. І не ў аднаго апусьціліся рукі дзеля таго толькі, што, праяжджаючы праз вёску, судзіў аб вартасьці й сіле гэтае вёскі па яе вонкавым выглядзе. Ён глядзеў на вёску звонку й згары. Каб яе добра разглядзець і ацаніць, трэба на яе глянуць знутра й зьнізу.

Вёска, на якую інтэлігенцыя й адміністрацыя заўсёды глядзелі, як на стада „быдла“, не магла дабіцца ніколі людзкага з ёй абходжаньня. Усялякія праявы ініцыятывы душыліся самым нялюдзкім спосабам. Спачатку ўлада бачыла ў гэтых праявах, „бунт“; у апошнім часе бачыць „komunizm i szerzenie dążeń wywrotowych“. Усё, што асьмелілася праявіцца, як нешта выходзячае панад ровень шэрае масы, было засуджана загадзя па гібель. Гэта змусіла вёску, з аднаго боку, замкнуцца самой у сабе, акружыць сябе нейкім непранікаемым плашчам, для вока звонку, якое хацела-бы разглядаць яе чалавечую душу; з другога боку—вёска, адкіданая—у сілу ўтварыўшыхся абставінаў ад грамадзкага жыцьця гаспадарства, перастала ўрэшце арыентавацца, а затым і лічыцца з тымі законамі, якія сталі на дарозе да разьвіцьця сацыяльна-адраджэнскага руху, і ўваходзячы ня раз у рэзкі канфлікт з імі.

Калі возьмем апошнія чатыры гады разьвіцьця нашае вёскі і калі параўнаем два гістарычныя мамэнты: 1) выбарную кампанію ў Сойм і 2) арганізаваньне „Грамады“, як масавае арганізацыі,—дык прыходзіцца згадзіцца з тым, што вёска за гэтыя чатыры гады, разьвілася й дасьпела сацыяльна й нацыянальна так, як можа рэдка хто, а мо' й ніхто не спадзяваўся. Ужо вёска ведае, чаго яна хоча,—ведае, хто яе вораг, хто прыяцель, — здае сабе справу з важнасьці арганізаванага жыцьця і г. д., і г. д. Прыкладам можа паслужыць той шалёны тэмп, у якім ідзе арганізаваньне й рост Бел. Сял.-Раб. Грамады на правінцыі. Вёска добра разумее, што змаганьне з абшарнікамі і наогул з буржуазіяй, можа зацягнуцца на доўгія гады; вось-жа, апрача вечнае барацьбы—трэба вёсцы даць нешта рэальнае, пазытыўнае. Прыходзіцца змагацца на кожным кроку. Для змаганьня патрэбна: ведаць, што магчыма й што—не, ды мець пэўную практыку. Да гэтага часу вёска жыла сваім уласным жыцьцём, мала ведаючы, што „можна“, чаго „ня можна“. З гэтага няведаньня вынікала тое, што вёска, часта маўчала тады, калі мела абавязак і права крыкнуць голасна й з найвялікшым абурэньнем. Уводзячы вёску на шлях легальнае барацьбы, трэба стварыць апарат, які даваўбы сябрам „Грамады“ палітычна-грамадзкую асьвету й веду. Няведаньне права й усіх адміністрацыйных пастановаў зрабіла тое, што селянін ня ведае, куды сунуцца з тэй ці іншай патрэбай—асабістай ці грамадзкай—і або не выяўляе сваёй ініцыятывы зусім, баючыся „ўліпнуць“, або выяўленьне ініцыятывы дае непажаданыя, або непрадуктыўныя рэзультаты. Трэба, каб цэнтр пастараўся даць селяніну магчымую веду й помач у гэтым напрамку. Трэба, каб кожны мог хутка й вычэр-

пываюча атрымаць інструкцыю, як пастуціць у тым ці іншым выпадку, бо сяньня селянін падобны да жаўнера, які, ведаючы аружжа і маючы яго, ня ведае, як з ім абходзіцца і як ужываць.

Тут трэба шукаць і каранёў нашае хваробы—недацэніваньня сваіх уласных сілаў.

Балючым пытаньнем зьяўляецца цяпер на вёсцы пытаньне аб роднай школе. Нам не даюць асьветы ў роднай мове, а тым часам, побач з тым, што вучні не разумеюць польскай мовы, польскія школы на „Крэсах“ стаяць так нізка, што я бачыў цэлыя масы 16—17 летніх вучняў, якія ў польскай школе не навучыліся навет дзяленьня. Трэба даць у зразумелай мове асьвету нашаму народу. Трэба палажыць націск на выдавецтва, друкуючы паважныя, але зразумелыя кнігі—зьмесу культурнага й палітычнага. Трэба, не чакаючы, прыступіць да арганізацыі бібліатэк, чытальняў, лекцыяў, народных дамоў і г. д.. Ня гледзячы на тое, што пэрыяд арганізацыйны яшчэ далёка не закончаны, трэба даць работу й матар‘ял камітэтам на мяйсцох, каб праца ў час не замірала.

Трэба адначасна зьвярнуць вялікую ўвагу на нашу будучыню — моладзь, бо ў яе прыходзіцца сцьвярдзіць таксама немалую дасьпеласьць і зразуменьне, чаго нам трэба.

Многія згодзяцца са мною. „Усё гэта так“! скажуць. „Але адкуль узяць матар‘яльныя сродкі“?

Яны ня знаюць нашае вёскі; бо хто добра яе знае, той ведае, што, пасьля стольніх зьдзекаў, вёска, бачучы магчымасьць абароны штодзенных сваіх інтарэсаў, дасьць—дый ужо даець!—на справу і **сілу і грошы!**

Лунінецкі пав. **Шыран.**

# Карэспандэнцыі.

(В. Блудэнь, Пружанскага пав.)

Ад часу з‘арганізаваньня ў нас гуртка Беларускай С.-Р. Грамады ні днём ні ноччу няма нам супакою ад паліцыі. Усё яна лазе, усё чагось шукае, але толькі не праўдзівых бандытаў.

Спачатку езьдзілі па вёсках, дзе, ходзячы ад хаты да хаты, выпытываліся, хто „арганізуе Граmаду“, каб, як гаварылі, пасадзіць таго ў вастрог. Далей шукалі тых, хто запісаўся ў Грамаду, каб іх „таксама“ арыштаваць. Аднак, бачучы, што самі запужаць народ не патрапяць, выпісалі адкульсьці новых паліцыянтаў і ўжо пад іх кіраўніцтвам і на чале з імі ўзяліся ўзноў „шукаць“ Грамады, пагражаючы ўсім запісаўшымся ў яе, ланцугамі, вастрогам і навет расстрэлам. Рабілі вобыскі і цягалі навет людзей уначы на пастарунак, адкуль іх, сама-сабой разумеецца, у канцы-канцоў мусілі звальняць, бо ў іх працы ня было нічога незаконнага.

Бачучы ўсё гэта, сяляне нашы пазналі, у чым тут справа, і дружна пачалі арганізоўвацца. Заложаны неўзабаве афіцыяльна Гурток, вытрымаў усе націскі з боку паліцыі і польскіх паноў. Пачаліся (хоць і ў прысутнасьці тэйжа панскай паліцыі) сходы; праца пачынае ўхадзіць у нармальную калею; не хапае толькі разьвітога кіраўніка, але калісь і з гэтым парадзім. Праца сама высуне новыя больш здольныя сілы наперад, дасьць неабходную практыку працы грамадзкай, патрэбную сьмеласьць і гібкасьць, здысцыплінуе арганізацыю, і ўсё будзе добра.

Гэта ўсё вельмі і вельмі не падабаецца пузачам-абшарнікам і капіталістам. Ім хацелася-б, каб Грамада развалілася, скампраміталася дзеля чаго, натуральна, добра мець у ёй „сваіх“ людзей. Аднак, спроба канфідэнта Баруткі працісьнуцца да нас у Гурток скончылася нічым; няма ніякай надзеі, каб гэта ўдалося якомусь іншаму канфідэнту, што ўжо служылі ў паліцыі перш. Аднак, паліцэйскі розум і тут даў сабе рады і знайшоў выхад. Калі ня можна канфідэнта ўпхнуць у Грамаду, то чаму якогась грамадаўца не папрабаваць зрабіць канфідэнтам паліцыі і правакатарам?...

І вось, калі на сходзе Гуртка Грамады 19. IX. 26. была зроблена пастанова арганізаваць Гурток Таварыства Беларускай Школы, прысутны на гэтым сходзе камэндант блудэнскага пастарунку выбраў на такога правакатара ня „простага сьмяротнага“, а самога сэкрэтара Гуртка—Гардзейчыка Янку, на якога і павёў сваю хітрую атаку.

Прыкрываючыся тым, што ён, якабы, служа ў паліцыі толькі дзеля таго, што ў **„буржуазнай“**(?!) Польшчы ня можа знайці сабе іншай працы, што ён зусім ня вораг беларускіх працоўных мас, але наадварот — іх прыяцель, зачаў ён прасіць Гардзейчыка назваць яму „пад сэкрэтам“ тых асоб, якія маюць быць выбраны ў склад прэзыдыума Гуртка Т-ва Беларускай Школы,—арганізацыі, як ведама, зусім апалітычнай і легальнай, — каб ён (камандант) мог даць аб гэтым знаць старасьце перш, чым гэта зробіць само Таварыства. „Вам-жа гэта нічагусенькі не зашкодзе, а мяне за гэта староста пахвале“, гаварыў ён соладка, як вуж легендарнай Эве.

На першы пагляд выглядае можа каму гэта ўсё і зусім ня страшным. Аднак, гэта толькі так здаецца наіўным. Той-жа самы „прыяцель беларусаў“ камандант, у тым самым тыдню, бегаў па Блудню, шукаючы **„нелегальных сходаў“**, да якіх ён залічыў і зборкі моладзі на рэпэтыцыі „Штукі шчасьця“ Аляхновіча—дзеля маючай у хуткім часе адбыцца вечарынкі, аб чым ён дасканальна быў паінфармаваны на тым-жа сходзе 19. IX. 26., дзе справа гэтай вечарынкі абгаварывалася. За гэтыя „сходы“—рэпэтыцыі „прыяцель“ гразіў усіх арыштаваць.

Пагадзіць разам усе гэтыя прыязьні ніяк немагчыма. Трэба помніць, што і красьці людзі пачынаюць з іголкі, гузіка, ці яблыка, а канчаюць—коньмі, грашыма і т. д.; забойствы пачынаюцца з раскіданьня гнёздаў птушак, але канчаюцца на вялікіх дарогах і ў хатах; правакатарства пачынаецца з дружбы з паліцыяй і паведамляньня яе „пад сэкрэтам“ аб грамадзкіх, але „зусім няважных справах“ задарма, канчаецца-ж заўсёды сфабрыкаванымі за **грошы** палітычнымі працэсамі — часта-густа проці людзей нявінных, ды лепшых сыноў працоўных масаў і свайго народу.

Грамадзяне сябры С.-Р. Грамады! Факт гэты павінен адчыніць вам вочы на той паскудны спосаб, якім паліцыя хоча працісьнуцца ў вашу арганізацыю. Грамада гэтакія рэчы ператрывала, але тым, хто пойдзе па гэткай сьлізкай дарозе, шчасьця ня будзе!. Паліцыя іх будзе „любіць“ да таго толькі часу, пакуль яны за юдавы срэбнікі будуць прадаваць справу працоўных беларускіх мас, а з гэтым і сваю разам. Але рана ці позна яго „праца“ будзе раскрыта; ён, як паршывая авечка, будзе выкінены з Грамады, а ўсе працоўныя застасуюць да такіх людзей байкот, закляймяць ганьбай. А тады ён будзе непатрэбны і паліцыі, бо ўжо немагчыме рабіць тое, на што яго нанімалі. Буржуазія выкіне яго вон таксама, як выкідае вон тыя цытрынкі, сок з якіх ужо выцісьнены ў шклянку.

Сябры Грамадаўцы! Больш дысцыпліны, больш працы, сьмеласьці і салідарнасьці! У нашых радах, у радах арганізаваных працоўных мас—не павінна быць здраднікаў!.. Толькі арганізаваным, адкрытым, сьмелым змаганьнем даб‘емся мы лепшай долі і скінем ярмо капіталу!

**Б. Тойсамы.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× „Profesorka“ польскае мовы ў беларускай школе ў Горадні сее рэлігійную ненавісьць сярод дзяцей; асабліва варожа яна настроена да „православных москалі“, разумеючы пад гэтым праваслаўных беларусаў.

× Назначаны сакольскім старостай за Адэльскага войта Вароніч, якога гміна не хацела, прыехаў з паліцыянтам у в. Гаркавічы зьбіраць падатак—па 147 зл. ад участка (18 дзес.). Некаторыя сяляне, што мелі грошы—заплацілі. Войт паехаў і, прыехаўшы праз тыдзень, патрэбаваў не па 147 зл., а па 178 зл. Гэты раптоўны „скачок курсу“ вельмі зьдзівіў і абурыў сялян, і вось яны паслалі дэлегатаў у Саколку, каб даведацца ў падатковага інспэктара, колькі запраўды трэба плаціць; і даведаліся, што па 137 зл. трэбуюць!—Значыць „падвышку“ войт браў сабе. Цяпер сяляне, каб ня мець справы з гэтакімі варонамі, як войт Вароніч, выбралі сабе зборшчыка падаткаў Якуба Баравіка, і яму аддаюць падаткі, а ён адвозіць іх у Саколку.

**Ад Рэдакцыі.** На войта трэба падаць жалабу пракурору.

× Хто спазьніўся заплаціць падаткі солтысу в. Була, Косаўскай гм., Дзіянісу Анішчыку, то плаціць ня менш 10% у месяц кары; хто пісару ў гміне—дык бяз кары! І падводы і на работу пешую ганяе тых, на каго злосьць мае, а хто ня можа ехаць, дык адразу мальдуе, як „бунтаўшчыка проці ўлады“, і тут-жа штраф, як гэта было з Мікалаем Анішчыкам: на 20 зл. пакаралі яго. Падаткі бярэ, скажам, у красавіку, а квіт дае за сьнежань,—па два разы бярэ адзін і той самы падатак;—відаць, сабе бярэ гэтыя грошы, бо добрую хату выбудаваў за час свайго солтысаўства. Ен кажа, што сяляне яго ня зьменяць, бо за ім староста! Але да пары паны сабак трымаюць!

× Паліцыянт № 2302 з Пескаўскага пастарунку з ружжом кінуўся на сялян — Івана Баравіка і Мацея Вераб‘я з в. Ліханічы, Песк. гм., Ваўкав. пав.,—за тое, што не хацелі падпісаць пратаколаў за калодзежы, якія былі ў парадку. Такім чынам гэты № 2302, лаючы камуністамі і страшачы вастрогам, аружжам змусіў — сялян падпісаць несправядлівыя пратаколы!

4. VI. г. г. паліцыянт Мацеевскі з Пескаўск. пастарунку прыйшоў чагось да Івана Кудрыка ў в. Пацэвічы, Пескаўск. гм., Ваўкавыскага пав. У сенях паліцыянт угледзіў сабаку, якую гаспадыня трымала за вушы, каб не брахала, але, ня гледзячы на гэта, паліцыянт з ружжа стрэліў у сабаку—і шчасьце, што папаў не ў гаспадыню, а ў сабаку, якую й забіў!

**Ад рэдакцыі.** Гэтую справу мы скіравалі ў Пасол Клюб Беларус. Сял.-Работ. Грам,

× В. Прудцы, Дзембраўскай гм., Лідзкага пав., ляжыць блізка лесу кн. Сапегі, дык цяпер лясьнік Томукевіч і лясьнічы Жывецкі не пазваляюць сялянам праходзіць праз гэты лес да сваіх сенажацяў,—чаго ніколі ня было! Ды мала таго: цяпер падалі на суд, што сяляне самавольна пасьвяць жывіну ў лесе,—а да гэтага году пасьвілі—і нічога, дзяды-ж і прадзяды з-прад вякоў пасьвілі.—Судзьдзя ў Шчучыне за гэта пакараў сялян на 300 зл. кожнага!—Асабліва паўселі паны, бачачы магутны арганізацыйны рух сялян, што йдуць у „Грамаду“; але гэта яшчэ больш падлівае масла ў вагонь, бо сяляне пэўны — і цяпер пераканаліся, што толькі „Грамадою“ перамогуць гэтае зло і ўціск, што мучыць нашага брата—селяніна!

× Абшарнік з Бакеўшчыны, Гарадэчанскай гм., Наваградзк. пав.,—Міхал Якімец з сваім сынам Іванам пабандыцку паступае з сялянамі, што працуюць у яго.—У жніўні с. г. гэты Іван Якімец дапаўсьмерці зьбіў кіём 16-гадовага Сяргея Скварадзу з в. Агароднікі — за тое, „што кепска гараў пану“. З Аляксандрам Скварадою тое самае было. Ня любяць гэтыя паны „Грамады“—аж вешаюцца. 1 верасьня г. г. Іван Якімец хацеў застрэліць свайго пастуха,—за тое, што той чытаў „Беларускую Справу“. Прыставіў селяніну рэвальвэр да грудзёў і кажа: „Застралю цябе, камуніст, і ніхто справы ня знойдзе!“—Другі раз угледзіў гэтага пастуха з газэтаю, дык з вярсту гнаўся за ім. Селянін уцёк у вёску, а бандыт бажыўся, што застрэліў-бы, каб быў рэвальвэр!—Ен-жа Іван Якімец,—дэфэнзыўшчык; б‘ецца па твару,—бо—кажа —сялян-камуністаў можна“!

**Ад Рэдакцыі.** Сяляне самы павінны даць адпор гэтакім бандытам-крывапіўцам.

× Жыхар в. Сарокі, Гарадоцкай гм., Маладэчанскага пав., — Маліноўскі судзіўся з панам Гнатоўскім за зямлю і высудзіў. Тады пан рашыў вось як пазбыцца Маліноўскага: падкупіў абяцанкамі Паўлюка Ганчара, Антося Прышаля, Прымака і яшчэ нейкага брадзягу — з в. Сарокі, ды двох сваіх парабкоў і, напаіўшы гарэлкаю, падсунуў ім паперку, каб падпісалі, што Маліноўскі мае зносіны з СССР. — Прыехалі тады з Вялейкі панкі, зрабілі обыск і, хоць нічога не знайшлі, а Маліноўскага арыштавалі, і цяпер ён сядзіць у вастрозе ў Вялейцы. Маліноўскі гэты—75-гадовы дзед, глухі, сьляпы і бяз носа.

**Ад Рэдакцыі.** Гэтую справу мы аддалі ў Соймавы Клюб Белар. Сялян.-Работн. Грамады.

× Раз выйшлі каровы в. Галынь, Любчанскай гм., Наваградз. пав., на пасьвішча абшарніцы Ліды Пэкер; яна тут-жа, разумецца, каровы заняла—44 штукі. А як прыйшлі сяляне па каровы, то яна кажа: „Плацеце па злотаму ад штукі, тады аддам; грошы нясеце айцу Васілю Чэрвінскаму на купліва чашы, і прынясеце ад яго квіткі“.—Сяляне так і зрабілі, бо толькі тады аддала каровы. — Дзіўная супалка, а яшчэ дзіўнейшая мараль!

× Папрасіў асаднік Адам Конэцкі селяніна Вінцука Партаса з в. Таранды, Мікалаеўскай гм., Дзісьненскага пав., каб пусьціў яго ў сваю хату. Селянін, думаючы, што асаднікі гэтакія-ж людзі, як і нашы сяляне, — пусьціў. Дык вось як гэты асаднік загаспадарыў: увёў свае коні ў пуню, дзе ляжала 90 снапоў пшаніцы гаспадара. Гаспадар папрасіў падобраму вывесьці коні, а асаднік: „Ja ciebie nie pytam, co mam robić!“ і схапіў стрэльбу ды да селяніна! Шчасьце, што селянін аказаўся дужэйшы і з жонкаю адабраў стрэльбу і аднёс солтысу. А асаднік—на пастарунак і „замэльдовал“ што на яго „напалі“. Але прыйшла паліцыя і сьведкамі сцьвярдзіла, што нападаў не селянін, а асаднік. Справа пайшла ў суд.

× Асаднік А. Камінскі з двара Буйневічы, Пачапаўскай гм., Наваградз. пав., эксплёатуе рабочых,—ня плаціць ім належнага заробку.

× Сымон Я. Басюк з в. Гамевічы, Гарадоцкай гм., Наваградзк. пав., ліжацца ды прыслужваецца панам, а сялянам уеўся ў косьці, — каб толькі выслужыцца перад панамі.

× 7. IX г. г. каля вёскі Вялікая Вобрына, Стаўпецкага пав. выцягнулі з Нёмана ў мяшку абкручанага сенам трупа. Дзеля таго, што ў тамашняй ваколіцы яго ніхто ня ведаў у народзе пайшоў слух, што гэта, мусі шпік паплаціўся за сваю працу.—Прыехалі дактары, абглядзелі, парэзалі і пакінулі, паставіўшы варту і гэты труп, нічым не акрыты, ляжаў на сонцы ад аўторка да пятніцы, ды заражаў паветра.—Гэтак у нас выглядаюць мэдыцынска-санітарныя парадкі!

## Паштовая скрынка.

**Грам. Кізевічу і Якусевічу.** На жаль, другіх карэспандэнцыяў зьмясьціць ня можам — з увагі на істнуючую ў Польшчы „свабоду друку“.

**Карэспандэнту Стаўпецкага пав.**,—апісваючаму—паміж іншым—дзікія паступкі паліцыянта № 512. Вашы карэспандэнцыі так напісаны, што немагчыма зразумець сутнасьці справы; апрача таго Вы не падалі свайго дакладнага адрасу. Вось дзеля гэтага іх і ня можам зьмясьціць. Пішэце коратка і зразумела, падаючы свае прозьвішча і адрэс,—тады скарыстаем.

**Блізкаму з Міцкевічаў.** Карэспандэнцыю Вашу зьмяшчаем, але таго нумару, дзе яна будзе зьмешчана, выслаць не абяцуем, бо Вы не падалі свае пошты. Прышлеце дакладны адрэс, ці пакажэце, на чые імя выслаць, то прышлем пробны нумар нашай газэты.

**Грам. Дземашкевічу.** З Вашых карэспандэнцыяў нічога ня можна зразумець. Тое, аб чым Вы просіце, перадалі ў Соймавы Клюб Белар. Сялян.-Раб. Грамады.

**Карэспандэнту**, апісаўшаму, як зямельны камісар Вялейскага пав. прыяжджаў разьбіваць в. Задубеня на хутары.—Карэспандэнцыяў бяз адрасу і прозьвішча карэспандэнта—не зьмяшчаем.

**Вярхлескаму бонку.** Аб тым, што Вы нам пішаце, ужо мы пісалі ў газэце. Трэба ў карэспандэнцыі падаваць сзае прозьвішча і адрас. Пішэце больш,—скарыстаем.

Адказны-Рэдактар: **К. Вайтовіч.** Друкарня **Я. Левіна**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**